БЕЛАРУСКАЯ МАЛАДЗЁЖНАЯ ГАЗЕТА

# ЧЫРВОНАЯ ЧЗ ЗМЕНА

10 лютага 1994 г.
Чацвер
№ 16 (13732)
Кошт у розніцу 20 рублёў
Выдаецца з 1921 года

**У НУМАРЫ:**



*Малюе Віктар ДУБОВІК*






ЯК ЖЫВЕШ, ВЁСКА?

Нясвіжскі раён.
Фота Сяргея БРУШКО.

## Кур'ер "ЧЗ"

### В.Кебіч: "Аб'яднанне – узаемавыгаднае"

*Заявы праціўнікаў аб'яднання грашовых сістэм Беларусі і Расіі не маюць пад сабой падстаў. Гэта акцыя не супярэчыць інтарэсам абедзвюх рэспублік. Пра гэта сказаў 8 лютага на пасяджэнні прэзідыума Беларускай навукова–прамысловай асацыяцыі Старшыня Савета Міністраў Беларусі Вячаслаў Кебіч.*

Пры падпісанні пагаднення па аб'яднанню грашовых сістэм Беларусь будзе атрымліваць энерганосьбіты па аднолькавых з расійскімі спажыўцамі цэнах. Кіраўнік урада пакуль што не абнародаваў курсу абмену "зайчыкаў" на расійскія рублі. Але ён запэўніў, што грамадзяне Беларусі не пацерпяць пры гэтай акцыі.

### Месца сустрэчы змяніць нельга

*У чацвер, 10 лютага, мяркуецца правесці пасяджэнне Прэзідыума Вярхоўнага Савета Беларусі. На ім будзе разгледжаны шэраг пытанняў, у тым ліку, пра дзень аднаўлення пленарных пасяджэнняў сесіі парламента.*

Як вядома, у мінулую пятніцу дэпутаты ўзялі "тайм-аут" на няпэўны час.

### Шушкевіч "пайшоў у людзі"

*Прыкладна паўгадзіны аб падзеях, якія адбываліся нядаўна і адбываюцца цяпер, расказваў 9 лютага былы Старшыня Вярхоўнага Савета Беларусі Станіслаў Шушкевіч на сустрэчы з гаспадарчымі кіраўнікамі прадпрыемстваў і арганізацый Фрунзенскага раёна Мінска.*

Месца першага паяўлення на людзях пасля адклікання з пасады спікера выбрана невыпадкова — менавіта ў Фрунзенскім раёне Станіслаў Станіслававіч выбіраўся народным дэпутатам Беларусі.

БЕЛІНФАРМ.

### Партыі падтрымалі рашэнне страйкама

*7 лютага ўвечары ў Мінску адбылася кансультацыйная нарада кіраўніцтва рэспубліканскага савета страйкавых камітэтаў з прадстаўнікамі палітычных партый і рухаў рэспублікі, Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі, Незалежнага і Свабоднага прафсаюзаў.*

На нарадзе, у прыватнасці, прысутнічалі прадстаўнікі Партыі народнай згоды, Аб'яднанай дэмакратычнай партыі Беларусі, Беларускага народнага фронта, Беларускай сацыял-дэмакратычнай грамады, Беларускай хрысціянска-дэмакратычнай злучнасці, Беларускага згуртавання вайскоўцаў, Польскага дэмакратычнага аб'яднання.

Была выказана аднадушная падтрымка рашэнню Савета страйкавых камітэтаў пачаць 15 лютага бестэрміновы ўсебеларускі палітычны страйк. Прадстаўнікі Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі заявілі, што афіцыйныя адносіны ФПБ да маючай адбыцца акцыі яны выказваць не ўпаўнаважаныя. Паводле іх слоў, пазіцыя ФПБ адносна палітычнага страйка будзе вызначана ў бліжэйшыя дні і паведамлена савету страйкамаў пасля 10 лютага. На нарадзе прыняты адкрыты зварот да грамадзян Беларусі, у якім утрымліваецца заклік далучыцца да ўдзельнікаў палітычнага страйка.

БелаПАН.

### "Атлант" – у Парыжы

*У Парыжы прайшла выстаўка "Confortek–94", дзе экспанавалі сваю прадукцыю вытворцы бытавых халадзільнікаў і маразільнікаў з усяго свету — краін Еўропы, Азіі, Амерыкі. Сярод прадстаўленых там 45 фірм былі і сусветныя лідэры ў гэтай галіне: "Gold Star", "Ocean", "Whirlpool", "Bosch", "Zanussi", "Siemens". Упершыню на такой выставе мела свой стэнд і беларускае аб'яднанне "Атлант".*

Халадзільнікі "Мінск" не засталіся тут без увагі, і перад прадпрыемствам цяпер стаіць задача пашырыць свой стэнд і ўвогуле больш грунтоўна заняцца рэкламай дзеля выхаду на сусветны рынак. Удзел у парыжскай "Confortek-94" выявіў добрыя перспектывы для гэтага.

Вітаўт МАРТЫНЕНКА.

### Раджаюць усё меней

*У студзені гэтага года ў Мінску нарадзілася 1315 немаўлятак.*

Гэта менш, чым за такі ж перыяд мінулага года — у 1993 жыццё ўбачылі 1486 хлопчыкаў і дзяўчынак. Увогуле паводле звестак Дзяржкамстата за мінулы год на Беларусі на свет з'явілася 117 820 малышоў, з іх 17 341 у Мінску.

Лідзія РЫЖАНКОВА.

### Праблемы па–суседску?

*17–20 лютага беларускі фонд імя братоў Луцкевічаў разам з Фондам імя Фрыдрыха Эберта (Германія), Цэнтрам імя Улафа Пальме (Швецыя) і Міжнародным інстытутам працоўных і сацыяльных адносін (Беларусь) арганізуюць у г.Мінску Міжнародную навукова–практычную канферэнцыю "Асноўныя пытанні сацыяльнай палітыкі і гаспадарання ў Беларусі і суседніх краінах".*

У канферэнцыі прымуць удзел навукоўцы, а таксама прадстаўнікі сацыял-дэмакратычных і сацыялістычных партый і рухаў Беларусі, краін СНД, Усходняй Еўропы, Аўстрыі, Германіі, Фінляндыі, Швецыі.

### Б.Ельцын зноў захварэў

*У сувязі з прастудным захворваннем прэзідэнт Расійскай Федэрацыі Барыс Ельцын не выязджае з дому і працуе ў загараднай рэзідэнцыі.*

Пра гэта паведаміла ўчора прэс-служба прэзідэнта.

(Ул.інф.).

### Шыла – на мыла?

*Пра бядотнае становішча гіганта беларускай індустрыі — Мінскага трактарнага завода — пісаць даводзілася ўжо не адзін раз. З–за адсутнасці камплектуючых вузлоў прадпрыемства прастойвала цэлыя тыдні. Тым не менш, з набліжэннем вясны да вытворцаў славутых ва ўсёй Садружнасці Незалежных Дзяржаў "Беларусаў" пачалі прыбываць дзесяткі дэлегацый — пераважна з сельскай мясцовасці. І не выпадкова: не за гарамі сяўба...*

Аднак цэны, што называецца, кусаюцца, ды і пераразлік курсаў нашых "зайцоў" на, скажам, украінскія карбованцы ці літоўскія літы зойме нямала часу. Вось і вымушаны прадпрымальныя спажыўцы трактаразаводскай прадукцыі прапаноўваць гаспадарам самыя розныя і часам неверагодныя варыянты. Так, сяляне некаторых абласцей Украіны прапанавалі кіраўніцтву трактарнага за асобныя дэталі да "МТЗ-80/82" па 5 тон цукру.

Алесь МЯСНІКОЎ.

### Як парадніліся пушчы

*На новае месцажыхарства ў заказнік "Налібоцкая пушча" дастаўлена новая партыя белавежскіх зуброў.*

Першыя чатыры волаты, завезеныя сюды тыдзень таму, акружаны ўвагай і клопатам лясной аховы і адчуваюць сябе ўпэўнена. Пакуль падножныя ласункі знаходзяцца пад покрывам снегу, для навасёлаў арганізаваны падвоз кармоў і вадапой. Плануецца, што ўсяго сюды будзе завезена 15 зуброў. Догляд статка будзе весці брыгада штатных работнікаў Валожынскага лясгаса.

На жаль, у апошнія гады назіраецца аслабленне самай буйной сёння белавежскай папуляцыі. На думку вучоных, рассяленне гэтых рэдкіх жывёлін будзе садзейнічаць аздараўленню віду. Налібоцкая папуляцыя стане ў Беларусі чацвёртай пасля прыпяцкай, барысаўскай і белавежскай. Сёння зубрыны статак нашай рэспублікі налічвае 360 асобін, кожная з якіх з'яўляецца жывым помнікам старажытнай фауны.

НЕРУШ-ПРЭС.

**Курсы валют на 8 лютага:**

| | Даляр ЗША | | Ням. марка | |
|---|---|---|---|---|
| | Скупка | Продаж | Скупка | Продаж |
| "Комплекс" | 5600(5992) | 5800 | 3180(3402) | 3300 |
| "Белбізнесбанк" | 5700 | 6000 | 3300 | 3500 |
| "Прыор" | 5950 | 6150 | 3360 | 3550 |

*(У дужках —курс за безнаяўны разлік)*

САЦЫЯЛАГІЧНАЯ СЛУЖБА "ЧЗ"

# У трывожным чаканні...

☐ **Ігар КАТЛЯРОЎ, доктар сацыялагічных навук, – спецыяльна для "ЧЗ"**

*Інстытут сацыялогіі Акадэміі навук Беларусі другі год праводзіць рэпрэзентабельныя і мнагамерныя сацыялагічныя даследаванні па вывучэнню змяненняў палітычнай сітуацыі ў Беларусі.*

*Чарговы этап маніторынгу праведзены напрыканцы мінулага года. У апытанні прынялі ўдзел 1619 чалавек. Выбарка была рэпрэзентатыўная.*

*Асноўны вывад даследавання — Беларусь бяднее і "становіцца больш левай", знаходзіцца на мяжы сацыяльнага выбуху. Так думае народ рэспублікі, але як думаюць маладыя людзі — найбольш актыўная сацыяльная група насельніцтва.*

Вядома, калі разважаць тэарэтычна, то моладзь з надзеяй, з аптымізмам павінна глядзець у будучыню. Але ці так на самай справе?

Адказ на гэтае пытанне дапаможа даць аналіз адказаў на сацыялагічную анкету перш за ўсё, 60 — першых, студэнтаў і навучэнцаў, па-другое, моладзі ва ўзросце да 25 гадоў.

Дзве трэці насельніцтва Беларусі лічаць сябе альбо "беднымі", альбо "жабракамі". Значна больш аптымістычна глядзяць на сваё матэрыяльнае становішча студэнты і навучэнцы. Беднымі лічаць сябе менш паловы апытаных, жабракамі наогул 5,6 працэнта. Аднак сацыялагічныя апытанні паказваюць куды больш страшную карціну. Яшчэ восем гадоў назад можна было кожны дзень купляць сабе шакаладку, за дзве зарплаты рабочага можна было купіць чорна-белы тэлевізар, за тры — каляровы. У кожным другім сельскім доме быў матацыкл, у кожным чацвёртым — аўтамабіль. Што мы атрымалі цяпер? "Мы ніколі не купім сабе "сценку",— перакананы студэнты-маладажоны.

На думку вельмі многіх рэспандэнтаў, асноўная прычына ўсіх няшчасцяў — гэта насільнае разбурэнне Савецкага Саюза. Віскулеўскія пагадненні. Адзінае выйсце з цяжкага крызісу — стварэнне рэальнага эканамічнага саюза з Расіяй і іншымі краінамі СНД. Так лічыць большая палова насельніцтва Беларусі. Яшчэ дзесятая частка перакананa ў тым, што неабходна неадкладна аднавіць Савецкі Саюз. Гэта значыць, дзве трэці жыхароў Беларусі ўпэўнены ў тым, што толькі разам з рускімі і іншымі народамі былога Саюза можна выбрацца з бездані, куды завялі рэспубліку палітыкі. Іншыя прапаноўваемыя партыйнымі функцыянерамі і журналістамі меры не знаходзяць падтрымкі беларускага народа. За стварэнне кааліцыйнага ўрада — як выйсце з крызісу — выказаліся 4,5 працэнта, сканцэнтраванне паўнаты ўлады ў моцнага лідэра — 4,2 працэнта, забарона былым партыйным і дзяржаўным дзеячам займаць кіруючыя пасады — 3,6 працэнта, прыцягненне іншаземнага капіталу — 3,1 працэнта насельніцтва Беларусі.

А якое выйсце прапануюць маладыя людзі? Як гэта ні смешна, але за стварэнне саюза з Расіяй выказаліся 55,1 працэнта апытаных студэнтаў і навучэнцаў, 48,5 працэнта — маладых людзей ва ўзросце да 25 гадоў. На другім месцы — энергічнае правядзенне эканамічных рэформ (адпаведна — 35,5 працэнта і 32,5 працэнта). А вось, напрыклад, стварэнне кааліцыйнага ўрада падтрымліваюць 5,6 працэнта рэспандэнтаў—студэнтаў і навучэнцаў і 3,4 працэнта ва ўзросце да 25 гадоў.

У сацыялагічным апытанні быў цэлы блок пытанняў, якія датычылі прыняцця новай Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь. Большасць апытаных выказалася за захаванне асноўных сацыяльных гарантый Канстытуцыі Беларускай ССР. Такім чынам, права на працу падтрымалі 89,9 працэнта рэспандэнтаў усіх сацыяльных груп, 80,4 працэнта апытаных студэнтаў і навучэнцаў, 85,4 працэнта моладзі ва ўзросце да 25 гадоў. Людзьмі падтрыманы і правы на сацыяльнае забеспячэнне ў старасці, бясплатную адукацыю і медыцынскае абслугоўванне.

Больш рознагалоссяў пры аналізе адказаў на пытанне аб дзяржаўнай мове.

Такім чынам, 17,7 працэнта насельніцтва Беларусі выказаліся за адзіную дзяржаўную мову — беларускую. Прычым, сярод сацыяльных груп найбольш актыўна гэтую ідэю падтрымліваюць пенсіянеры (18,3 працэнта) і сяляне (17,9 працэнта). Сярод студэнтаў і навучэнцаў толькі 16,8 працэнта адказалі "так" дзяржаўнасці беларускай мовы, сярод моладзі да 25 гадоў — 18,4 працэнта. Цікава, што ў адной з мінскіх ВНУ 3 працэнты студэнтаў выказаліся за чытанне лекцый толькі на беларускай мове.

69,7 працэнта лічаць, што ў рэспубліцы павінны быць дзве дзяржаўныя мовы — руская і беларуская. Ідэю дзяржаўнага двухмоўя найбольш актыўна падтрымліваюць прадпрымальнікі і бізнесмены (82,6 працэнта), ваеннаслужачыя (81,4 працэнта), пенсіянеры (74,1 працэнта), студэнты і навучэнцы (72,0 працэнта). Сярод моладзі ва ўзросце да 25 гадоў 71,4 працэнта рэспандэнтаў — за дзве дзяржаўныя мовы.

Істотна падзялілася думка народа Беларусі па пытанню ўвядзення ў рэспубліцы пасады прэзідэнта. Сёння менш як трэць (30,7 працэнта) падтрымліваюць гэтую палітычную інавацыю. Паўгода назад іх было 34,4 працэнта, год назад — 35,5 працэнта. Гэтыя людзі сцвярджаюць, што, толькі "абапіраючыся" на моцную ўладу, можна навесці элементарны парадак у Беларусі. Цікава, што сярод студэнтаў і навучэнцаў увядзенне прэзідэнцтва падтрымліваюць 45,8 працэнта, сярод моладзі да 25 гадоў — 35,9 працэнта. Супраць увядзення пасады прэзідэнта выказаліся 31,7 працэнта рэспандэнтаў (у маі 1993-га — 27,9 працэнта, у снежні 1992 года — 24,5 працэнта).

Астатнім апытаным было цяжка адказаць на гэта пытанне.

Ход палітычных працэсаў, актыўнасць вялікіх мас людзей у многім залежаць ад палітычных партый. Як паказаў сацыялагічны маніторынг, шэсць першых месцаў у "турнірнай табліцы" папулярнасці займаюць партыі левай арыентацыі. Бясспрэчны лідэр — партыя камуністаў Беларусі. Яе асноўны апанент — Беларускі народны фронт толькі на сёмым месцы. Яго папулярнасць прыкладна ў два разы меншая, чым у камуністаў. У Польшчы левыя сілы прыйшлі да ўлады пад лозунгам "Вярніце нам усё, што было". Гэтую ідэю падтрымліваюць вельмі многія жыхары Беларусі. У маладых людзей крыху іншыя палітычныя сімпатыі, чым у больш пажылых. У студэнтаў і навучэнцаў першае месца займае Партыя зялёных Беларусі (хаця тут, на маю думку, спрацаваў сіндром чакання), другое-трэцяе месцы падзяляюць палітычныя праціўнікі — Беларускі народны фронт і Рух сацыялістычнай арыентацыі "За дэмакратыю, сацыяльны прагрэс і справядлівасць". Камуністы толькі на восьмым-дзевятым месцы.

У моладзі праявіўся той жа сіндром чакання. Зусім нечакана на першае месца выйшла толькі што створаная Рэспубліканская партыя працы і справядлівасці.

А вось сярод палітычных лідэраў становішча больш дакладнае. З вялікім адрывам лідзіруе народны дэпутат Беларусі Аляксандр Лукашэнка. Людзям імпаніруе яго барацьба з карупцыяй, за аднаўленне разбураных сувязей з Расіяй. Многія рэспандэнты падтрымалі сустрэчу А.Лукашэнкі з расстраляным Вярхоўным Саветам Расійскай Федэрацыі. Трэба адзначыць катастрафічнае падзенне рэйтынгу Станіслава Шушкевіча. Асабіста я не ведаю іншай краіны ў свеце, дзе старшыню дзяржавы падтрымлівае толькі дзесятая частка насельніцтва.

Сярод студэнтаў і навучэнцаў таксама наперадзе Аляксандр Лукашэнка, ён жа першы сярод моладзі да 25 гадоў.

Шмат іншых цікавых момантаў вызначыў маніторынг. На працягу апошніх двух гадоў падае падтрымка прыватнай уласнасці на зямлю. Большасць насельніцтва рэспублікі не падтрымлівае эканамічныя рэформы ўрада. Выказалася супраць прафесіянальнага парламента, супраць выбараў па партыйных спісах. Амаль палова ўпэўнена ў тым, што рэспубліка стаіць на мяжы сацыяльнага выбуху.

Вярхоўнаму Савету, Савету Міністраў вельмі важна прыслухацца да думкі беларускага народа і тэрмінова прыняць меры па вываду рэспублікі з жорсткага крызісу. Беларусь у трывожным чаканні...

## ДЗЕВЯТАЕ НЕБА — "Еўраньюс" — "Суперчэннэл" — "TV-5"

### Брат Кастра – мафіёзі?

*Рауль Кастра, брат кубінскага лідэра Фідэля Кастра, другі чалавек у краіне, можа аказацца замешаным у гандлі наркотыкамі.*

Гэта вынікае з сакрэтных дакументаў, знойдзеных у "караля забойцаў" Пабло Эскабара, застрэленага нядаўна паліцыяй пасля пабегу з турмы.

### "Рыбны дзень"

*У Брэтані французскія рыбакі перакулілі два вялікія грузавікі з рыбай з Нарвегіі і Даніі. Затым яны пачалі бясплатна раздаваць "дары мора" ўсім, хто праязджаў па шашы.*

Такім чынам рыбакі выказалі свой пратэст супраць імпарту ў краіну таннай рыбы.

### Мафія – не бессмяротная. Нават у Неапалі

*Італьянская паліцыя арыштавала больш як 40 чалавек у час аперацыі па выяўленню мафіі.*

Большасці з іх будзе прад'яўлена абвінавачанне ў захоўванні і транспарціроўцы наркотыкаў. Аперацыя была праведзена ў наваколлі Неапаля і ў самім горадзе, які сёння з'яўляецца асноўным прыстанішчам "каморы".

### Небяспечнае сонечнае святло

*Група амерыканскіх даследчыкаў устанавіла, што страта азонавага слоя зямлі на 1 працэнт павялічвае рызыку захворвання ракам скуры на 5—7 працэнтаў.*

Так, пяціпрацэнтнае штогадовае змяншэнне азонавага слоя над ЗША прыводзіць да павелічэння смяротнасці ад гэтай хваробы прыкладна на 4000 выпадкаў.

Асабліва адчувальная страта азонавага слоя ў высокіх шыротах. Над Санкт-Пецярбургам, напрыклад, яна дасягае 8 працэнтаў.

ПАВЕДАМЛЕННІ, АТРЫМАНЫЯ ПА КАНАЛАХ СПАДАРОЖНІКАВАЙ СУВЯЗІ

*Дзяжурныя па выпуску: перакладчыкі С.КІРЫЕНКА, Д.ЛІТВІН, рэдактар П.СІМАНАЎ.*

ПАДПІСКА-94

## ЗАСТАВАЙЦЕСЯ З НАМІ

Сёння, 10 лютага, пачынаецца падпіска на другі квартал гэтага года. На працягу месяца (а закончыцца падпісная кампанія 10 сакавіка) чытачы могуць вырашыць, якое перыядычнае выданне яны выберуць для сябе. Мы спадзяёмся, што з "Чырвонкай" застануцца яе старыя сябры, а таксама верым, што іх у нас стане больш. Толькі на працягу прайшоўшага квартала наш тыраж вырас на сотні экземпляраў.

Працуючы на свайго чытача, мы ўлічваем, што, перш за ўсё, "Чырвоная змена" застаецца адзінай нацыянальнай маладзёжнай газетай у рэспубліцы. І таму галоўнае месца ў ёй будуць займаць тэмы нацыянальнага адраджэння. Рубрыка "100 артыкулаў з гісторыі Беларусі", якая карыстаецца папулярнасцю ў чытачоў, атрымае свой працяг.

Мы жадаем таксама, каб "Чырвоная змена" несла як мага больш аператыўнай і сучаснай інфармацыі падпісчыкам. Той, хто сочыць за рубрыкамі "Дзевятае неба", напэўна, заўважыў ужо, як хутка інфармацыйна-рэкламнае агенцтва "ЧЗ-інфарм" з дапамогай сістэмы спадарожнікавага тэлебачання перадае "гарачыя" і сенсацыйныя навіны з розных кутоў планеты.

Мы імкнёмся, каб публікацыі "Чырвонай змены" былі карыснымі ў практычным жыцці. Таму і заведзены з гэтага месяца рубрыкі "Юрыдычная служба "ЧЗ", "Бізнес-клас", "Спытайце ў Наташы".

Для нас важна мець зваротную сувязь са сваім чытачом. Для яго думак заўсёды ёсць месца ў "Паштовай скрынцы". Разам з вядучай рубрыкі "13-е крэсла" ён зможа ўдзельнічаць у аналізе тэлепраграм Беларускага тэлебачання.

Дарэчы, аб тэлебачанні. Поўная праграма тэлеперадач, улічваючы 8-ы канал і Санкт-Пецярбург, па-ранейшаму будзе друкавацца ў газеце. А спецыяльныя паметкі ў ёй дапамогуць хутка знайсці час дэманстрацыі мастацкіх і мультыплікацыйных фільмаў.

Падпісны кошт на квартал 1440 рублёў. Наш індэкс 63129.

